# ULTIMATE X-MEN

ISSUE 29

ВЯРТАННЕ КАРАЛЯ. ЧАСТКА 3




.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Сучасныя Людзі-Ікс
№29 (2001)
пераклад і афармленне: Козыраў Сяргей

MILLAR
KUBERT
MIKI

MARVEL



WWW.MARVEL.COM

Charles Xavier — Professor X
Scott Summers — Cyclops
Jean Grey — Marvel Girl
Ororo Munroe — Storm
Logan — Wolverine
Kitty Pryde — Shadowcat
Hank McCoy — Beast
Peter Rasputin — Colossus

# RETURN OF THE KING

## PREVIOUSLY IN ULTIMATE X-MEN:

Расамаха, Цыклоп, Марвел, Шторм, Звер, Калос і Чалавек-Лёд. Яны - Людзі-ікс, мутанты, аб’яднаныя прафесарам Чарльзам Ксаўе, які навучыў іх кіраваць сваімі неверагоднымі здольнасцямі.

Магнета - Майстар Магнетызму - пагражае чалавецтву новай вайной. Ён стварае штаб Братэрства Мутантаў - Цытадэль і распрацоўвае моцную зброю, якая павінна павялічыць яго сілы ў тысячы разоў.

Каб выратавацца ад чарговай атакі мутантаў, Нік Ф'юры вяртае праграму Вартавых. Між тым улады абвінавачваюць Людзей-ікс у супрацоўніцтве з Братэрствам, бо менавіта па іх віне Магнета застаўся на волі. Прафесар Ксаўе арыштаваны, а яго вучні залеглі на дно. Яны спрабуюць рэабілітавацца перад людзьмі і абяшкоджваюць некалькі тэрарыстычных груповак мутантаў. Аднак грамадства па-ранейшаму бачыць у Людзях-ікс толькі злосных небяспечных мутантаў.

Унутры самой каманды таксама наспявае канфлікт. Марвел абвінавачвае Расамаху ў забойстве Цыклопа, які знік бяз звесткі на Дзікай Зямлі. У час кульмінацыі іх спрэчкі з'яўляецца галаграма Магнета, які прапаноўвае Людзям-ікс далучыцца да Братэрства. Ён дае сябрам сем дзён на прыняцце рашэння.



Stan Lee presents:

# ULTIMATE X-MEN


Mark Millar story
pencils Adam Kubert Danny Miki inks

Dave Stewart colors
Chris Eliopoulos letters
Stephanie Moore assistant editor
C.B. Cebulski associate editor

Brian Smith associate editor
Ralph Macchio editor
Joe Quesada editor in chief
Bill Jemas president & inspiration


ДЗІКАЯ ЗЯМЛЯ,
ЧАТЫРЫ ТЫДНІ НАЗАД:
CYCLOPS!
HOLY CRAP!


CATCH!


Супакойся, Кіці. Я амаль у поўнай **бяспецы**. Проста трэба, каб хто-небудзь дапамог мне ўстаць на ногі. І тады мы зможам выбрацца адсюль.
Знайдзі нам **бяспечны выхад**, Кіці! Я **выцягну** яго!


Добры стары Расамаха. Злы, як чорт. І кончаны псіх. Але ён заўсёды аказваецца побач у цяжкую хвіліну.


**Ты вушы не мыла? Ідзі і знайдзі бяспечны выхад, пакуль гэтае месца не разляцелася на кавалкі, дурное дзіця!**
З табой бяссэнсу **спрачацца**, Расамаха.


Спадзяюся, акажацца, што прафесар зноў меў рацыю.
Ты аб чым?

Дастаткова паставіць двух хлопцаў, якія да смерці **ненавідзяць** адзін аднаго, у цяжкую сітуацыю, і праз некаторы час адзін з іх ужо будзе ратаваць жыццё другога.

Лічу, мы абодва ўпэўніліся, што ў словах гэтага чалавека ня трэба **сумнявацца**.

Расамаха?

**Падумай** яшчэ раз, браток!

WOLVERIIINE!!

ДЗЕНЬ ПЕРШЫ:
Нейкую частку секунды я наіўна меркаваў, што гэта проста сон.
Быццам я ляжу ў ложку, і хутка зазвоніць мой гадзіннік. Генры Макой пастукае ў дзверы майго пакою і нагадае аб тым, што заняткі ў Небяспечнай зоне пачнуцца пасля сняданка.
І зноў усё будзе добра...
Але потым я адчуў смак крыві на вуснах, адчуў боль у плячы, мае ногі здранцвелі.
Я двойчы міргнуў, потым разплюшчыў вочы... і ўнутры мяне ўсё **апусцілася**...


О, божа!
Не хвалюйся, Самерс. Трымай сябе ў руках. Трымай сябе ў руках.


Панікуючы, ты толькі ўсё пагоршыш. Падключы сваю логіку, паспрабуй знайсці **рашэнне** праблемы.
Яшчэ раз прааналізіруй факты, і **патрэбная** думка прыйдзе сама сабой...


WOLVERINE!!


Не бывае бязвыходных сітуацый. Не бывае бязвыходных сітуацый.
Я паўтарыў гэтую фразу тысячу раз. А потым страціў прытомнасць ад болю.


ОСЦІН, ТЭХАС:
На паверхні аднаго з васьмі падземных разведвальных цэнтраў «Абароны».
BILLIONS SLAUGHTERED


Бобі, гэта Кіці. Ты абсалютна ўпэўнены, што **адключыў** усе камеры ў гэтым месцы?
Ты ж ведаеш, што адной, нават самай **маленькай**, будзе дастаткова, каб заўважыць мяне.


Кіці... Васемнаццаты раз паўтараю... Я **замарозіў** усе камеры. Усе цеплавыя сэнсары і нават усе прылады, якія перадаюць сігнал трывогі. Зразумела?
Джына дапамагла мне прачытаць думкі працоўных у гэтым будынку. І павер, яны ведаюць гэтае месца не горш, чым свае венікі.


Ён мае рацыю, Кіці, я перадаю іх думкі Бобі такім жа спосабам, як я навучыла цябе разбірацца ў кампутарах. Табе абсалютна няма аб чым турбавацца.
Высвятлі, ці ёсць ў «Абароны» яшчэ якая-небудзь інфармацыя пра сакрэтную **Цытадэль** Магнета. Апроч той, якую яны паведамілі прэсе. І я паспрабую, кба ты забыла ўсе гэтыя хваляванні.



У глыбіні душы мне здаецца, што, магчыма, лепшы спосаб выратавацца - гэта згадзіцца ў тым, што ён мае рацыю. Што вы аб гэтым думаеце, рабяты?
Хто мае **рацыю**? **Магнета**?




Ну, я толькі ведаю, што ён не сажае мутантаў за краты, Бобі Дрэйк. І ён не з каманды «Людзі-ікс», якім прыходзіцца цяпер хавацца, быццам яны злодзеі.
Мабыць, нам варта абмеркаваць, наколькі **правільны** накірунак мы **выбралі**?
Кіці, дзеля бога! Я не чакаў, што ты пачнеш гаварыць такую **лухту**...




Уяві, мы згадзімся... І што далей? Мы дазволім яму знішчыць нашы сем'і? Нашых старых сяброў і людзей, якія проста жылі каля нас?
Што будзе з усімі астатнімі, калі ён пачне сваё наступленне? Калі мы знойдзем месца, дзё ён хаваецца, сітуацыя можа **змяніцца**.




Слова «**можа**» было **паролем**.
Аб чым ты?




Ну, калі не лічыць, што Братэрства вандруе па свеце і ратуе мутантаў... так... мяркуючы па ўсім, улады ведаюць пра іх яшчэ меньш, чым мы.

ДЗЕНЬ ДРУГІ:
Увесь ранак я спачатку клікаў на дапамогу, а потым даваў лёгкім адпачнуць.
Я ведаю, што вакол нікога няма. Я ведаю, што патрапіў у падземную пастку на **незаселеным востраве**. Але я не магу проста ляжаць і паміраць.
Неспыняючае ціканне старых вайсковых гадзіннікаў бацькі адцягнула маю ўвагу ад думак пра мой горкі лёс.
Пры адсутнасці натуральнага асвятлення толькі яны дапамагаюць мне адчуваць розніцу паміж **секундамі** і **гадзінамі**. І, магчыма, таму я яшчэ не згубіў розум.
У думках я склаў спіс пашкоджанняў, якія атрымаў. Лічу, у мяне восем пераломаў, тры выбітых зуба, адно парванае лёгкае і чатырнаццаць раненняў розных памераў.
Я паўтараю сабе, што гэта **не смяротна**, і не варта так ужо засмучацца.


Наверсе штучныя дзікуны пераследвалі штучных дыназаўраў у гушчары штучнага леса. І ўсё гэта для таго, каб даць асалоду чалавеку, які марыў ператварыць свет у нешта падобнае на фантастычны раман.
Памерці тут будзе поўным **абсурдам**. І я абяцаю сабе, што гэтага ня будзе.


Чаму ён так са мной зрабіў? Чаму Расамаха кінуў мяне паміраць тут, у цемры? Мне здавалася, што яму падабаюцца «Людзі-ікс» і ўсё, за што яны вядуць **барацьбу**.
Чаму ён не баіцца страціць адзіных людзей на Зямлі, якія прынялі яго?




Віншую, прытырак.
Ты падставіў спіну самаму гарачаму прыхільніку тваёй дзяўчыны!


У ЦЭНТРЫ ЛАС-АНЖЭЛЕСА:
Ты ўпэўнены, што зладзіш сам, Расамаха?


Ну, разумееш, я адчуваю сябе трохі глупа, калі проста стаю і гляджу, як ты разбяраешся з гэтымі экстрэмістамі з Братэрства Мутантаў. Я зусім нічым не магу дапамагчы?
Ня ведаю. Скарыстайся сваёй фантазіяй, Калос. Напрыклад, зрабі з іх машыны шарык ці яшчэ што.


Зрабіць з іх машыны шарык?
Але я заўсёды раблю з машын шары.


І, магчыма, зараз самы час, каб прызнацца і расказаць мне ўсю праўду...
Нават не думай аб гэтым, Калос.


Не выключана, што гэта наш адзіны шанс. Калі тэрарысты не прывядуць нас да сакрэтнага сховішча Магнета, у нас застанецца ўсяго пяць дзён.


Я не хачу загінуць, так і не дазнаўшыся праўды.
Насупраць, мне здаецца, найбольш карысна раскрыць свой сакрэт сябру, чым трымаць яго ў сабе. Ты згодны?


А на тваю думку, мне патрэбна дапамога?




Дарэчы, сябра, хачу, каб ты ведаў, я **не веру** ў тыя жудасныя рэчы, якія, па іх словах, маглі адбыцца між табой і Цыклопам на Дзікай Зямлі.
Я ведаю, што вы не вельмі ладзілі, але ў табе занадта шмат высакароднасці, каб забіць паплечніка дзеля прывабненькай дзяўчыны.




Некаторыя сактрэты **«карысней»** трымаць у сабе.
Найболь карысней.


Відаць, цяпер ужо няма неабходнасці кідаць гэтую рэч?

ДЗЕНЬ ДВАНАЦЦАТЫ:

Калі вам цікава, я не галодны. Але я ведаю, што павінен есці, таму жую ўсё, да чаго магу дацягнуцца.

Я пачаў з маіх пальчатак. Але яны былі знадта тоўстымі і жорсткімі.

Лічынкі і карэнні, якія я знаходжу пад камянямі, значна смачнейшыя, і ў іх ёсць вільгаць, якая не дазваляе мне памерці ад абязводжвання.

Мне спатрэбілася дзесяць хвілін, каб пераадолець сябе і з'есці першую станожку, але зараз я частуюся імі з вялікім задавальненнем.

Што можа быць смачней гэтых далікатных і сакавітых істот! Калі я вярнуся дадому, буду іх есці ўвесь час.

ДЗЕНЬ ДВАЦЦАЦЬ ШОСТЫ:

Мабыць у мяне пачаліся **галюцынацыі**, але мне здаецца, што акрамя мяне, тут ёсць яшчэ хтосьці, хто хапаецца за жыццё.

На мяне пасыпаўся град камянёў. У іх раптам выраслі ножкі і яны пачалі таньчыць у мяне на галаве. Баюся, што ў гэты раз, я сапраўды **губляю розум**.


Я паўтараю пра сабе табліцу множання, чытаю алфавіт у прамым і адваротным напрамку і ўспамінаю прозвішчы ўсіх прэзідэнтаў...
Хто там быў да Клінтана?


Сувязь па-ранейшаму не працуе. Занадта глыбока, і сігналы не даходзяць. Ніхто ня ведае, ці жывы я, ці памер, але я ўпэўнены, што яны хутка пачнуць шукаць мяне.
Я павінен **выжыць**, каб убачыць твой твар, Джына, калі ты знойдзеш мяне...


Чаму ніхто мяне **не шукае**?
Я павінен выжыць, каб не дазволіць больш гэтаму бруднаму адшчапенцу увівацца вакол маёй **любімай дзяўчыны**.


Дзень дваццаць шосты ці сто дваццаць шосты... Я не дазволю яму сапсаваць усё лепшае, што між намі было, **дарагая**.


Так ці інач, але я вярнуся **дадому**.






Бінга - паветранаму атраду. Мы знайшлі тут жывога мутанта.



САН-ДЫЕГА:



Прывітанне.
Прывітанне.
Чаму ты сідзіш тут з выключанай сістэмай маскіроўкі? Не баішся, што нас могуць падстрэліць?
Калі шчыра, мне проста хочацца ўспомніць, што я адчуваў, калі нам не прыходзілася **хавацца**, Араро. У рэжыме негатыўнага асвятлення заход выглядае зусім інакш. Ты не заўважала?


Я раней не думала аб гэтым, але цяпер... Так, бачу, што ты маеш рацыю. Зараз колеры больш...
Нават ня ведаю... **натуральныя**.


Якія-небудзь навіны наконт пошукаў Магнета?
Так, навін шмат, але, нажаль, нічога добрага. Мы нават пранікл ў сістэму спадарожніка, але і гэта не дапамагло. Мне вельмі шкада.


Я таксама мала чаго магу зрабіць. Вынаходнік пабудаваў штаб, які немагчыма заўважыць на радарах.
І не забывай пра **смяр-цельную зброю**, аб якой казаў Магнета. Яна павінна знішчыць усё жывое на Зямле.


Мабыць ужо зменім тэму размовы?
Прабач.


Глупа, праўда? Мы хаваемся ад уладаў, і магчыма, што праз **сорак восем гадзін** чалавецтва загіне, але мяне займаюць зусім іншыя думкі. Ведаеш якія?
Яны падобныя яркаму выбліску сярод чорных навальнічных хмар.
Слухаю.




Першы раз з тых часоў, як з'явілася наша каманда, мы можам быць абсалют-на ўпэўненымі ў тым, што Чарльз Ксаўе не маніпуліруе нашай свядомасцю, Араро.


І першы раз я магу спытаць цябе без усялякай дадатковай думкі аб маг-чымам шаленстве ці маім выродліцтве...


...скажы, ці кахаеш ты мяне хоць трохі?


О, Генры...


Я заўсёды цябе кахала.



ЛАГЕР «ФАКТАР ІКС», ГУАНТАНАМА, КУБА:














Возьмем, на прыклад, мяне... Мабыць, яны **і заблакіравалі маю здольнасць да тэлепатыі**, але яны замкнулі мяне разам з 43 мутантамі, якія раней і ведаць мяне не жадалі.

Яны адвярнуліся ад мяне, калі я прапанаваў ім далучыцца да «Людзей-ікс». А цяпер, быццам як расплата за грахі, ім прыходзіцца слухаць мае філасофстваванні па 24 гадзіны ў суткі.










ДЗЕНЬ ТРЫЦЦАТЫ:


Аднаму богу вядома, колькі гэта **працягвалася**...


Але, відаць, што мне вельмі **пашанцавала**.

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перакладa **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміўм.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.